# Можа, не за тых "балелі"?

**1 верасня на стадыёне Дынама ў Мінску адбыўся кваліфікацыйны матч чэмпіянату свету па футболу паміж зборнымі Беларусі і Украіны. Гульня ішла з яўнай перавагай украінцаў і скончылася іх перамогай з лікам 0:2. Апрануты ў спартовую форму прысутнічаў на атчы і сам А. Лукашэнка.**

Аднак увагу прыцягвала не толькі дзеянне на футбольным полі. Дзясяткі балельшчыкаў былі збітыя і затрыманыя спецназаўцамі і міліцыянтамі. У людзей забіралі майкі і бел-чырвона-белыя сцягі.

Яшчэ да пачатку матчу, пры ўваходзе на стадыён, людзей абшуквалі міліцыянты – тых, у каго былі знойдзены бел-чырвона-белыя сцягі і майкі з надпісамі: "Выбары-2001", "Барані сваё!" і іншыя, затрымлівалі ці заварочвалі са стадыёна. Затрыманых завезлі ў гарадское аддзяленне міліцыі, адкуль праз гадзіну адпусцілі без складання пратакола. Канфіскоўваліся таксама звычайныя майкі белага і чырвонага колеру. Пацярпелыя ад гэтай перасцярогі былі вымушаныя сядзець да канца матча голымі па пояс.

Калі гульня пачалася, сябры Маладога Фронту, Беларускай партыі свабоды і іншых арганізацый (каля двухсот чалавек) дасталі бел-чырвона-белыя сцягі і пачалі скандзіраваць "Жыве Беларусь!". Пасля некалькіх папярэджанняў міліцыянтаў і спробаў забраць сцягі, да гэтай справы былі падключаны байцы падраздзялення СОБР "Рысь". У перапынку паміж таймамі спецназаўцы кінуліся на сектары, у якіх былі заўважаны "крамольныя" сцягі, і пасля кароткай сутычкі вынеслі каля дзесяці чалавек. Затрыманых прагналі пад дубінкамі праз шэраг СОБРаўцаў за межы сектара, дзе працягвалі збіваць. Затым, абшукаўшы, іх загрузілі ў міліцэйскія аўтобусы і развезлі па РАУСах. Пры вобыску ў БПСаўца Алеся Гетмана знікла 150 долараў ЗША. Усяго на трыбунах было каля 30 бел-чырвона-белых сцягоў, з якіх каля 15 канфіскавана.

Падчас затрымання і збіцця людзі, якія бачылі гэта крычалі сілавікам: "Фашысты!", а Дзмітрыю Паўлічэнку, які асабіста кіраваў аперацыяй, скандзіравалі ў твар: "Забойца!".

Затрыманых завозілі ў Савецкі і Кастрычніцкі РУУСы і ў гарадское аддзяленне міліцыі, дзе іх трымалі тры гадзіны, а затым адпусцілі без складання пратаколаў. Аднаго хлопца адвезлі на "хуткай дапамозе".

Мушу, аднак, зазначыць, што міліцыянты ставіліся да затрыманых даволі прыязна і спачувальна: размаўлялі ветліва, а на пытанні: "За што нас затрымалі?" адказвалі: "Мы ўсё разумеем, але ж мы людзі паднявольныя".

**Стась ІВАШКЕВІЧ.**





*Минск, 2 сентября 2001 г. Октябрьская площадь. Поет Д. Бартосик.*

# Мой личный выбор

Я минчанка. Теперь уже меня можно так называть: я люблю этот город, хоть и живу в нем недавно. Мне 25 лет. Сейчас работаю в швейном ателье, регулярно плачу налоги и думаю, что могу считать себя хозяйкой своей страны. Придя с работы, как и большинство беларусов отдыхаю "на пару" с телевизором. Конечно, не с программами "Первого национального канала" (хотя догадываюсь, что он содержится на мои деньги). А вот бывая дома, в деревне, мне не приходится выбирать: в нашем районе не идут передачи других каналов.

В нынешнем августе я проводила свой отпуск дома. Благодаря БТ узнала, что очень тяжело приходится моей стране: кругом враги, которые не спят и видят, как "скушать" маленькую "памяркоўную" Беларусь. И спасти ее может только Один. Его узнать не сложно – образ усастого спасителя отечества плавно перетекает из кадра в кадр. И это в разгар выборной кампании, когда народ обязаны подробно познакомить со всеми кандидатами в президенты. Я возмущена тем, что всех претендентов стараются выставить на БТ в невыгодном для них свете, что сотрудники телевещания откровенно лгут, приукрашивают нашу действительность и управы на них сегодня нет никакой.

Я не ходила голосовать 7 лет назад (была мала и не думала, что это важно). Я вообще никогда еще не участвовала в выборах, т.к. считала, что это никак не сможет повлиять на судьбу и государства, и тем более на мою. Но за этот месяц, благодаря БТ, поняла: многое в моей жизни напрямую зависит от того, сумею ли я спросить у чиновников: "Куда и на что тратятся МОИ кровно заработанные деньги, которые я передаю в руки государства на их (государства и чиновника) существование?" Но при нынешней власти меня никто из чиновников и слушать не станет.

Я не хочу, чтобы мои дети когда-то в свои 25 лет предъявили мне претензии за то, что их реальная жизнь и то, что показывают по нашему телевидению, – совершенно разные вещи. Поэтому 9 сентября этого года я приду на избирательный участок. И догадываясь о том, что мой выбор, как и выбор моих знакомых, может кого-то не устраивать, я хочу быть тем независимым наблюдателем, появления которого на избирательных участках так боится нынешняя исполнительная власть.

Я мечтаю о моей Беларуси. Я мечтаю о свободе. И точно знаю, что сегодня многое зависит и от меня лично!

**Наталья ХОМЧЕНКО,**
**минчанка с 7-летним стажем,**
**будущая мать свободных детей.**

# Беларускі 27 каляндар
## жніўня

***Сёлета спаўняецца 175 гадоў з дня нараджэння нашага выдатнага этнографа, фальклaрыста і педагога Паўла Васільевіча Шэйна (1826–1900).***



**Павел ШЭЙН**
**1826–27.08.1900**

Павел Шэйн нарадзіўся ў Магілёве ў старасвецкай яўрэйскай сям'і; юнаком прыняў лютэранскую веру і парваў з бацькамі; у 30-гадовым узросце захапіўся беларускім фальклорам і збіраў яго да скону дзён. Гэты занятак у жудасныя для нашай краіны часы русіфікацыі і падаўлення паўстання Каліноўскага не быў для Шэйна забаўкай або ўцёкам у "сферы ўзнёслага, духоўнага" ад шэрага жыцця і аднастайнай працы настаўнікам нямецкай і рускай мовы ў правінцыйных гарадах Расійскай імперыі да 1881 г. Тое было "другое нараджэнне", паступовае ўсведамленне сябе беларусам, сынам гэтай шматпакутнай зямлі і яе прыгнечанага народа, з мовы якога адкрыта здзекаваліся чужынцы. На ўсё жыццё запомніў Шэйн выпадак у Барысаве ў 1877 г., калі ў гутарцы з ім, на той час прызнаным даследчыкам нашай мовы і культуры, высокапастаўлены расійскі чыноўнік пачаў злосна кпіць з беларускіх слоў, "перакручваць" і перайначваць іх, здзекліва пытаючыся: "Разве это язык?". "*Прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі з вышэйшых колаў адміністрацыі і юстыцыі, якія прысутнічалі пры гэтым,* – з абурэннем пісаў Шэйн рускаму акадэміку Я. Гроту, – *сапраўдныя абрусіцелі, моўчкі выказвалі сваё адабрэнне. Няма ніякага сумнення, што рускія чыноўнікі глядзяць на беларускага селяніна як на быдла*". Чыноўнікі кпілі не толькі з нашай мовы і простага люду, яны здзекваліся над самім вучоным. Паўлу Васільевічу трэба было мець мужнасць, каб бараніць беларушчыну і духоўныя скарбы народа, годна процістаяць нахабным царскім служкам. А яны скрозь сустракаліся Шэйну ў ягоных фальклорных экспедыцыях па Беларусі.

Каб збор фальклору набыў больш сістэматычны і шырокі характар, Шэйн распрацаваў спецыяльную праграму (Віцебск, 1867) – адну з першых у Расійскай імперыі. Пасля неаднаразовых перавыданняў яе наклад да 1893 г. дасягнуў 12 тыс. экзэмпляраў. Хутка ў Шэйна з'явіліся шматлікія добраахвотныя памочнікі. Сярод іх – М. Нікіфароўскі, Я. Карскі, А. Багдановіч (бацька нашага славутага паэта), Ю. Крачкоўскі, Я. Лучына і інш. Уласныя запісы (напрыклад, падчас сустрэчы з **трыма** старажыламі Віцебшчыны, Шэйн запісаў ад іх ажно 400 песень, а колькі было ў яго такіх сустрэч!), а таксама прысланыя карэспандэнтамі Павел Васільевіч сістэматызаваў, аб'яднаў па раздзелах. Так атрымаўся ладны збор "Беларускія народныя песні" (1874), што ўключаў 1006 фальклорных адзінак. Яшчэ ў рукапісе зборнік быў удастоены залатога медаля Рускім геаграфічным таварыствам, а 4 кастрычніка 1871 г. Шэйна выбралі членам-карэспандэнтам РГТ. Праз год Шэйна ўзнагародзілі Уваравскай прэміяй.

Справа жыцця нашага земляка – "Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю" (т.1–3, 1887–1902). Нягледзячы на недарэчную, афіцыйна-прэтэнцыёзную назву, кніга змяшчае агромністы матэрыял, што тычыцца жыцця беларусаў, іх культуры і вусна-паэтычнай спадчыны, сведчыць аб самабытнасці, унікальнасці нашага народа, яго вялікіх духоўных набытках. А сучасны даследчык з Санкт-Пецярбурга М. Новікаў у кнізе "Павел Васильевич Шейн" (1972) даў наступную ацэнку трохтомнай працы нашага земляка: *"Можна з упэўненасцю сказаць, што ні адзін з існуючых беларускіх фальклорна-этнаграфічных зборнікаў не можа параўнацца з "Матэрыяламі..." па колькасці, разнастайнасці і шырыні прадстаўленых у ім звестак..."*

Работа над "Матэрыяламі..." займала ў Шэйна ў апошнія гады жыцця шмат часу, але яна не абмежавала яго навуковыя памкненні. У 1898 г. наш зямляк выпусціў зборнік рускіх народных дзіцячых песень і казак, у 1890–1900 гг. выйшла яго двухтомная праца "Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т. п.". Акрамя таго, наш зямляк працаваў над акадэмічным слоўнікам рускай літаратурнай мовы, сабраў і апублікаваў звесткі пра вядомага беларускага фальклaрыста І. Насовіча, запісаў успаміны яго сына.

Поспехі на навуковай ніве не прынеслі Паўлу Шэйну матэрыяльных выгод, аднак у гісторыі беларускай фальклaрыстыкі ён назаўсёды застанецца зоркай першай велічыні.

**Падрыхтаваў Павел АБРАМОВІЧ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 СЕНТЯБРЯ

**БТ**
7.00, 9.00, 15.00 Новости.
7.15 Сериал «Река надежды»(Франция). 4-я серия.
8.05 «Агромир». Информационно-аналитическая программа.
8.30 Арсенал. Программа об армии.
9.10 Экран индийского кино. «Влюбленный воришка». 2-я серия.
10.40 Телевитамин.
11.05 «Все нормально, мама!» Развлекательная программа.
11.45 Мультиклуб.
12.10 Худ.фильм-сказка. «Летние впечатления о планете «Z»(«Беларусьфильм»). 1-я и 2-я серии.
14.25 «Радуга над Витебском». Вокальный ансамбль «Пумпурини»(Латвия).
14.45 «И другие официальные лица».
15.15 Мини-футбол. Республиканский турнир памяти А.Майского. Финал. 2-й тайм. Трансляция из спорткомплекса «Уручье».
15.45 Мир и мы.
16.10 Н.Мордюкова в мелодраме Н.Михалкова «Родня»(«Мосфильм»).
17.40 Криминальное досье.
18.10 «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
18.40 «Время местное». Репортажи из провинции.
19.10 Планета «АРТ».
19.40 Телебарометр. Прогноз погоды.
20.00 Резонанс.
20.50 Наше любимое кино. Г.Вицин в кинокомедии «Женитьба Бальзаминова»(«Мосфильм»).
22.15 Спорт-курьер.
22.25 Детективный сериал «Жюли Леско»(Франция). 2-я серия.
23.55 «Максим Галкин и друзья». Передача 2-я.

**ОРТ**
07.40 «Дисней-клуб». «Русалочка».
08.05 «Ералаш».
08.15 «Ускоренная помощь». Сериал.
08.50 «Библиомания».
09.00 Новости.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 «Пока все дома».
10.05 «Сами с усами».
10.35 «Клуб путешественников».
11.15 «Утренняя почта».
11.50 «С легким паром!».
12.20 Социальная мелодрама «Танцплощадка».
14.00 Новости.
14.10 «Миссис Брэдли. Шерстяная гадюка». Худ.фильм.
15.15 «Дисней-клуб». «Черный плащ».
15.45 «Ералаш».
15.50 «Живая природа». «Величайшее зрелище на Земле».
17.00 Новости.
17.20 «Спецрепортаж». «Бронепоезд особого назначения».
17.35 Криминальная драма «Мама».
19.35 Комедийный боевик «Час пик».
21.30 «Времена».
22.50 «Тысячелетие». Сериал.
23.45 Триллер «Год опасной жизни».

**РТР**
07.05 «Папа, мама, я - спортивная семья».
07.50 «Русское лото».
08.40 «ТВ Бинго шоу».
09.15 «Аншлаг».
10.15 «Городок».
10.50 «Доброе утро, страна».
11.30 Приключенческая комедия «Джокер».
13.00 «Вести».
13.20 «Диалоги о животных».
14.05 «Вокруг света».
14.50 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Италии. Трансляция из Монца.
17.15 «Маросейка, 12». Сериал. «Бабье лето».
19.00 «Вести недели».
19.55 Комедийная мелодрама «8 1/2 долларов».
22.00 Драма «Правила боя».
00.10 Эротическая комедия «Обнаженная в шляпе».
01.40 Прогноз погоды.

**НТВ**
06.55 Анонс дня.
07.00 Сегодня.
07.15 Фильм «Женский день».
09.00 Сегодня.
09.15 Криминальная Россия. «Охота на слонов». 1-я серия.
09.50 «Большой секрет для маленькой компании». Программа Л. Новоженова.
11.00 Сегодня.
11.25 Фильм «Новые приключения неуловимых».
13.05 Мультфильм.
13.30 Служба спасения.
14.00 Премьера НТВ. «Своя игра».
15.00 Сегодня.
15.30 Дог-шоу. Я и моя собака.
16.20 Фильм «Остров головорезов».
19.00 Намедни.
20.15 Куклы.
20.30 Триллер «Семь».
23.05 Журнал Лиги Чемпионов.
23.45 Фильм «Рим».

**КУЛЬТУРА**
09.05 «Детский сеанс». «Приключения Буратино». Мультфильм.
10.10 «Поет Н.Усенбаева».
10.35 Ток-шоу «Наобум».
11.00 «Тем временем».
11.30 Народная драма «Вольница».
13.10 «Власть факта».
13.30 «Новости культуры».
13.45 «Магия кино».
14.00 «Четырнадцатилетние. Рожденные в СССР». Док.фильм.
15.30 «В мире танца».
17.35 Мультфильм.
18.00 «Звездные годы «Ленфильма».
18.40 «Корабль дураков» в саду «Эрмитаж».
19.20 Короткометражная драма «Язык сердца».
19.50 «Собрание исполнений». Денис Мацуев. Передача 2-я.
20.30 «Смехоностальгия».
21.00 «Новости культуры».
21.20 «Личные воспоминания о большой жизни».
21.25 Мелодрама «Звезда Фрэнки».
23.00 «Банкет», «Охота». Мультфильмы для взрослых.

**ТВ6**
06.10 Дорожный патруль.
06.25 Фильм «Дело Румянцева».
08.15 «Star Старт».
08.55 «Все в сад!».
09.20 «Завтрак с Владимиром Соловьевым».
10.00 Сейчас.
10.30 «ИТОГО».
10.55 «Мое кино».
11.45 Фильм «Когда деревья были большие».
13.30 Телемагазин в Минске.
13.40 Дорожный патруль.
14.00 Сейчас.
14.25 Катастрофы недели.
15.00 «Забытый полк».
15.55 «За гранью возможного».
16.45 Сериал «Бандитский Петербург».
18.00 «Итоги».
19.15 Сериал «Бандитский Петербург».
20.30 «Без галстука» с Ириной Зайцевой.
21.15 Комедия «Колдовская любовь».
23.20 «Нашествие-2001»: группа «ДДТ».
00.30 Дорожный патруль.



РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000. Нумар падпісаны ў друк 4.09.2001 г. у 13.00. Заказ 712 Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г. Мінск, вул. Кнорына, 50а)*

Адрас рэдакцыі:
**220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»**
**E-mail: kapp@irex.minsk.by**
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16